У нумары: ПЛЕНУМ ГП БГКТ · ТАЯМНІЦЫ ІЛЬНУ · ПЕСНЯ „Bogdan"

# Ніва


ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА.

№ 13 (474) | ГОД X | 28 САКАВІКА 1965 г. | ЦАНА 60 гр.


## ПАХВАЛА РЫБАЛАЎСКАЙ МОЛАДЗІ

Ужо ва ўсіх навакольных вёсках (у Паўлах, Плёсках, Цялуціках, Трасцянцы) гучалі песні, давалі свае выступленні драматычныя гурткі, а ў Рыбалах — не было нічога.

Ужо паўваяводства аб'ехала са сваімі выступленнямі папулярная «Лявоніха», а калі прыехала ў вялікую вёску Рыбалы.., не было каму яе агледаць.

Пачнем аднак ад пачатку.

Сапраўды на працягу ўсяго пасляваеннага перыяду аж да апошніх гадоў не існаваў у Рыбалах аніякі маладзёжны гурток. За той час у Рыбалаўскай школе працавала мноства настаўнікаў і настаўніц, між імі былі людзі здольныя і ахвотныя да працы з моладдзю, нікому аднак не ўдалося нагаварыць гэтую моладзь парадаваць жыхароў вёскі добрай песняй ці мастацкім словам са сцэны. Проста смешным здавалася ім, што нехта з настаўнікаў хоча зрабіць з іх, дарослых ужо людзей, нейкіх там «артыстаў» ці «камедыянтаў».

Ды і публіка была ў Рыбалах няўдзячная. Калі прыязджала сюды «Лявоніха» або нейкі мастацкі гурток з суседняй вёскі, на выступленні прыходзіла мінімальная колькасць людзей, і прыязджаць у Рыбалы проста не аплачвалася.

І вось, як не дзіўна, але некалькі гадоў таму назад раптам усё змянілася. Пачаў працаваць мастацкі гурток, ажывілася дзейнасць маладзёжных арганізацый, на арганізаваныя моладдзю вечарыны пачалі зыходзіцца людзі

У чым сакрэт гэтых цікавых перамен?

Прыклад Рыбалаў наглядна паказвае ролю сапраўднага маладзёжнага калектыву ў жыцці вёскі, а таксама ролю школы і настаўніка ў фармаванні гэтага калектыву.

Было гэта ў 1960 годзе, калі пачатковую школу ў Рыбалах канчала колькасна найбольшая група вучняў з пасляваенных гадоў нараджэння. Настаўнікам і выхаваўцам удалося выхаваць у іх пачуццё салідарнасці, прывязанасці да свайго калектыву, а таксама прывязанасці да школы і навукі. Тагачасныя выпускнікі VII класа рыбалаўскай школы неахвотна, са слязьмі ў вачах (даслоўна!) развіталіся са школьнымі партамі, а калі мінулі летнія канікулы, прышлі да кіраўніка школы Панасюка і заявілі, што яны хочуць надалей быць разам і прыходзіць у школу. Кіраўнік Панасюк пастараўся арганізаваць для іх школу сельскагаспадарчай падрыхтоўкі (СПР).

У гэтым сыграным маладзёжным калектыве можна было вясці ўсякую мастацкую і арганізацыйную дзейнасць. І дзейнасць гэтая пачалася. Актывізаваў сваю працу гурток БГКТ, які раней існаваў толькі на паперы, тое ж самае сталася з «гуртком» ЗМВ, распачалася мастацкая самадзейнасць.

(Працяг на стар. 5)

## ПЕРАД КАНЦЭРТАМ



«Лявоніха», як мы ўжо інфармавалі, распачала другую тысячу сваіх канцэртаў На здымку: за 5 мінут пачатак чарговага канцэрта.

«Ці спадабаюся я гледачам?» —думае салістка Аля Дулевіч.

Фота: В. Рудчык



З гайнаўскай чыгуначнай станцыі ў горад далекавата. Каб скараціць сабе дарогу, людзі хадзілі напрасткі праз чыгуначныя рэйкі. Гэта стварала сур'ёзную небяспеку. Цяпер прыгожы бетонны мост скарочвае дарогу і адначасова стварае вялікую выгоду

Фота: В. Рудчык

## КОНКУРСЫ

**Бягучы год у дзейнасці Беларускага грамадска-культурнага таварыства адзначаецца вялікай колькасцю конкурсаў. Запачаткаваліся яны літаратурным конкурсам, які аб'яўлены ў беларускім календары на 1965 год. Адказы на яго можна прысылаць аж да канца мая. Першая ўзнагарода за правільныя адказы — 500 зл., другая — 400 зл., а трэцяя — 300 зл.**




### АГЛЯДЫ

Зімовы сезон спрыяльны для працы аматарскіх гурткоў. Як і ў мінулыя гады, у гэтым годзе будуць арганізаваны раённыя агляды, а пасля Цэнтральны — у Беластоку. Вядома, як і раней, будзе звяртацца ўвага на змястоўныя і выхаваўчыя п'есы, на мастацкі ўзровень ігры самадзейнікаў і ўмовы іх працы, на правільнае вымаўлянне і дыкцыю і г.д. У кожным раёне (у павеце можа быць два і больш раёнаў) удзельнікам агляду будуць прызначаны таксама па тры ўзнагароды. Першая ў суме 800 зл., другая — 600 зл., і трэцяя — 400 зл. На Цэнтральным аглядзе ўзнагароды значна вышэйшыя: — першая ўзнагарода — 1200 зл., другая — 900 зл. і трэцяя — 700 зл. Цэнтральны агляд адбудзецца ў канцы мая.

### НА БЕЛАРУСКУЮ ПЕСНЮ

У чэрвені месяцы будзе праведзены конкурс на найлепей выкананую беларускую песню. На першую ўзнагароду прызначана 500 зл., на другую — 300 зл., і на трэцюю 200 зл. Як

(Працяг на стар. 2)



# Касмічная прагулка і зямныя расчараванні

Новыя дасягненні Савецкага Саюза выклікалі шырокае эха ў свеце. Галоўнай прычынай гэтага быў, вядома, не новы рэкорд вышыні («Узыход — 2» падняўся на вышыню амаль 500 км), а выхад аднаго з касманаўтаў з кабіны. Прывязаны толькі тонкім канатам да касмічнага карабля, касманаўт Аляксей Ляонаў быў першым чалавекам, які аказаўся ў міжпланетнай прасторы па-за герметычнымі сценамі ракеты, адзеты толькі ў скафандр і забяспечаны кіслароднай бутляй. Палёт у космас П. Бяляева і А. Ляонава быў новым крокам наперад у пазнаванні і завяванні сусвету. Ніхто ў гэтым не сумняваецца. Савецкі Саюз ніколі не паўтараў па два разы тых самых эксперыментаў. Кожны новы эксперымент даваў новыя магчымасці далей развіваць праграму заваявання космасу. У апошнім эксперыменце ставілася заданне праверыць, ці можа чалавек даўжэй знаходзіцца непасрэдна ў міжпланетнай прасторы і (што яшчэ важнейшае) ці можа ў такіх умовах выконваць акрэсленую скардынаваную працу. Выхад Ляонава з карабля, праўдападобна, даказаў, што гэта магчыма. Гэта мае каласальнае значэнне ў сувязі з перспектывай калектыўных палётаў на Месяц, на Марс і далейшыя планеты. Такія палёты тэарэтычна ўжо магчымы і сёння, толькі трэба яшчэ вырашыць некалькі тэхнічных пытанняў. Па-першае, прымяняемых сёння ў касмічных караблях паліва і матораў нельга ужыць на будову карабля, які б з камандай касманаўтаў і поўным забеспячэннем мог прайсці шлях, напр., да Марса і назад. Такая ракета была б вельмі вялікай і дарагой.

А між тым савецкія доследы перш за ўсё паказалі магчымасць выкарыстання іншага спосабу заваявання планет. Пры палёце на Марс дастаткова мець караблі такія, як цяпер, калі чалавек навучыцца ў касмічнай прасторы перасядаць з аднаго карабля ў другі, мантаваць з прысланых з зямлі элементаў новыя караблі ці перамяшчаць забеспячэнне і паліва. Калі чалавек навучыцца ўсё гэта рабіць пры адначасовым вырашэнні праблем забеспячэння ад шкоднай для здароўя радыяцыі, можна будзе адважыцца на першае міжпланетнае падарожжа. Як гавораць вучоныя на падставе апошняга палёту Бяляева і Ляонава, савецкія вучоныя ўжо знаходзяцца вельмі блізка да перамадолення апошніх цяжкасцей для палёту на Месяц.

Новы касмічны крок Савецкага Саюза быў вялікай нечаканасцю для астранаўтыкі ЗША. Бяляеў і Ляонаў паляцелі ў космас на 4 дні перад абяцаным і рыхтаваным з такой шумнай рэкламай першым палётам амерыканскай двухасабовай ракеты. Яшчэ ў мінулы чацвер амерыканскі друк распісаўся аб тым, што ЗША дагоніць Савецкі Саюз у галіне касмічных палётаў. Новая праграма «Джэміні», павінна была прывесці да таго, што ў бліжэйшыя два-тры гады Злучаныя Штаты перагналі б Савецкі Саюз. Аднак ужо ў мінулую пятніцу «Нью-Йорк Таймс» вымушаны быў рассеяць гэтыя надзеі, пішучы: «Учарашні выхад астранаўта касмічнага карабля на ратунковым канаце яшчэ раз паказаў, на колькі далей пасунулася савецкая касмічная праграма ў параўнанні з амерыканскай». Гэтыя словы маюць свой як навуковы, так і палітычны аспект. Што датычыць навукі, дык Злучаныя Штаты і далей прызнаюць, што не маюць яшчэ такіх магутных ракет, а цяпер далучыўся яшчэ і той абсалютна шчыльны камбінезон, якога не маюць амерыканскія касманаўты, але без яго нельга пакінуць кабіны карабля.

Вядома, разумныя людзі з захапленнем глядзяць на касмічнае спаборніцтва дзвюх вялікіх дзяржаў. Разумныя людзі хацелі б, каб саперніцтва дзвюх грамадска - палітычных сістэм магло абмежавацца да сферы навукі, тэхнікі і гаспадаркі, каб пазбегнуць у гэтым саперніцтве элементаў узброенай барацьбы. Пакуль што ўрад Злучаных Штатаў застаецца глухі на галасы розуму. Гэта не прынясе яму ні перамогі, ні славы.

УЛ. ЛАЗІНСКІ

# БГКТ у выбарчай кампаніі

## (з V пленума ГП БГКТ)

21 сакавіка г.г. адбыўся V пленум Галоўнага праўлення Беларускага грамадска - культурнага таварыства прысвечаны набліжаючымся выбарам у Сейм і рады нарадовыя. Даклад зрабіў старшыня ГП БГКТ Міхась Хмялеўскі. На пачатку ён спыніўся на характары выбарчай кампаніі. Між іншым, сказаў: «За два месяцы будзем выбіраць на радных найлепшых прадстаўнікоў кандыдатаў Фронту адзінства народу: членаў партыі і беспартыйных. Сярод іх, так як і ў мінулыя выбары, знойдзецца не мала беларусаў, а нават членаў і актывістаў Беларускага грамадска-культурнага таварыства. З'яўляецца гэта яшчэ адным доказам раўнапраўнасці ўсіх жыхароў у нашай краіне, незалежна ад іх нацыянальнасці ці веравызнання. Беларусы, нароўні з палякамі, украінцамі, рускімі і іншымі нацыянальнасцямі, маюць гарантаваныя правы выбіраць і быць выбранымі, калі яны на гэта заслугоўваюць. Мерай ацэнкі чалавека ёсць яго праца».

Далей старшыня абмеркаваў дагэтуляшнія дасягненні Беласточчыны і заданні ў новай пяцігодцы. Асаблівую ўвагу звярнуў ён на сельскую гаспадарку — асноўны занятак беларусаў Беласточчыны. Адзначыўшы ўзрост ураджаяў (за 20-годдзе чатыры збожжавыя культуры ўзраслі з 9,2 да 14,7 цэнтнераў), звярнуў увагу ён і на недахопы. «Велізарнай перашкодай у падняцці эфектыўнасці сельскай гаспадаркі, — гаварыў Міхась Хмялеўскі, — з'яўляецца яе раздробленасць, а тым больш цераспалосіца і трохпольная сістэма апрацоўкі зямлі. Добрая ініцыятыва сялян Гайнаўскага павета ў правядзенні грамадскай камасацыі зямлі не сустракае ў іншых вёсках належнага зацікаўлення. А краіна на правядзенне такіх мерапрыемстваў зараз не мае сродкаў і спецыялістаў. Нашаму актыву трэба было б распачаць працу і ў гэтым напрамку».

«Рады нарадовыя мінулай кадэнцыі, — гаварыў далей дакладчык, — укладалі максімум працы, каб якнайхутчэй пакончыць з гаспадарчай і культурнай адсталасцю Беласточчыны. Інвестыцыйныя сродкі, якія мелі рады нарадовыя, раўнамерна раскладаліся на пабудову дарог, вясковых крамаў, школ, святліц, агранамовак. Адначасова ва ўсіх гэтых пачынах велізарную дапамогу аказвала мясцовае насельніцтва праз удзел у грамадскіх чынах. Каму не ведамы ў ваяводстве ўдзел у такіх чынах сялян Гайнаўскага павета, якія запачаткавалі ў небывалым размеры дарожнае будаўніцтва на адрэзках Гайнаўка—Кляшчэлі, Гайнаўка—Нарва і спалучылі ўсе сядзібы грамадскіх рад нарадовых з павятовым цэнтрам. У Беластоцкім павеце такое будаўніцтва праведзена на адрэзку Міхалова—Ялоўка. Іншыя паветы, у тым ліку Бельскі і Сямяціцкі, ад некалькі год па вартасці грамадскіх чынаў займаюць адно з першых месц. Трэба адзначыць, што паўднёва-ўсходняя частка Беласточчыны мела ў гэтай галіне найбольшыя занядбанні. Дзякуючы грамадскаму ўдзелу насельніцтва ва ўсіх мерапрыемствах радаў, нашы вёскі спалучаны ўжо з гарадамі дзяржаўнай аўтобуснай камунікацыяй. Палова электрыфікаваных сялянскіх гаспадарак дазваляе карыстацца электрычнымі машынамі, радыё і тэлебачаннем. Усе гэтыя змены магчымы дзякуючы народнай уладзе, а таксама шырокаму заангажаванню беларускага насельніцтва да працы на карысць свайго асяроддзя і ўсёй краіны. Гэта ёсць яшчэ адно пацверджанне супольнай адказнасці насельніцтва за далейшае эканамічна - культурнае развіццё краіны.

Шырокае заангажаванне беларускай нацыянальнай меншасці, — гаварыў далей старшыня, — мае свае асновы ў загварантаванні яму роўных правоў і абавязкаў нароўні з іншымі народамі. Выцякае яно таксама са слаўных рэвалюцыйных традыцый і супольнай працы ў гады апошняга 20-годдзя. Беларускае насельніцтва супольна з польскім у гады санацыйнай улады змагалася за свае сацыяльныя правы, пасля вызвалення — супольна бараніла народную ўладу. Яго найлепшыя сыны разам з гэтай уладай раслі, набывалі жыццёвага вопыту ў кіраванні краінай. Таму ў сучасных радах іх удзел вельмі шырокі. Лік беларусаў у гэтых радах не толькі не памяншаецца, але і ў многіх паветах узрастае. Паводле справаздач павятовых рад нарадовых, лік беларусаў у тэрытарыяльных радах у канцы 1964 г. акрэсліваўся на звыш 1300 асоб».

Старшыня прыводзіць лікі ўдзелу беларусаў у радах, іх камісіях, маладзёжных і іншых арганізацыях у паасобных паветах і сцвярджае: «Такі шырокі ўдзел нашай нацыянальнай меншасці ў радах нарадовых, у іх розных камісіях, а таксама ў іншых арганізацыях, якія дзейнічаюць у беларускім асяроддзі, магчымы таму, што беларусы разумеюць палітыку партыі і ўрада, не хочуць жыць у адасабленні, у ізаляцыі, а наадварот, хочуць прымаць у жыцці краіны як найшырэйшы ўдзел».

Затым старшыня ставіць заданні: «Беларускае грамадска - культурнае таварыства, — гаворыць ён, — разам з усімі ўстановамі і арганізацыямі грамадскага характару, аб'яднанымі ў Фронце адзінства народу, павінна якнайшырэй уключыцца ў выбары ў Сейм і рады нарадовыя. У гэтай працы наша арганізацыя павінна шырока выйсці да сваіх гурткоў з інфармацыямі аб дасягненнях у галіне эканомікі і культуры Беластоцкага ваяводства, аб працы рад нарадовых у мінулай кадэнцыі, аб перспектывах развіцця грамадаў, паветаў, ваяводства і краіны».

Далей старшыня гаворыць аб месцы нашых членаў у выбарчай кампаніі. Яны павінны знайсціся ў ліку мясцовых актывістаў Фронту адзінства народу. Мастацкая самадзейнасць таксама павінна шырока ўключыцца ў працу ФАН.

У дыскусіі выступілі сябры Семянюк, Леанчук, Шыманюк, Лебядзінскі, Майсеня, Артэмюк, Другавец і Сянкевіч. Усе яны падтрымалі дакладчыка, звяртаючы ўвагу на глыбокі сэнс станоўчых перамен у жыцці беларусаў за народнай улады.

Пленум аднагалосна вырашыў лічыць даклад напрамкам дзейнасці нашай арганізацыі ў выбарчай кампаніі.

Затым сакратар ГП БГКТ Ул. Юзвюк зрабіў інфармацыю аб працы за мінулы год і абмеркаваў план на 1965 г. (Шырэйшы матэрыял, прысвечаны гэтым пытанням друкаваўся ў «Ніве»).

На Пленум прысутнічалі: В. Рукат (МСВ), Ул. Сянкевіч (ВК ПАРП) і М. Куц (УСВ). (рл)

# Усе члены БГКТ - падпісчыкамі „НІВЫ“

Гурток БГКТ у Арэшкаве (Гайнаўшчына) існуе ад 1962 года. Нядаўна ў школе адбыўся справаздача - выбарчы сход гуртка. У дакладзе былі паказаны дасягненні і недахопы беларускай арганізацыі ў Арэшкаве. Прадстаўнік павятовага праўлення БГКТ у Гайнаўцы таварыш Дзуншчыра падзякаваў за працу найактыўнейшым членам і пажадаў яшчэ лепшых поспехаў у 1965 годзе. На гэтым сходзе ў гурток было прынята 13 новых членаў. Пасля адбыліся выбары новага праўлення. Старшынёй застаўся член ССМ Іван Скепка, сакратаром — бібліятэкар Марыся Чурак, а скарбнікам — працаўнік мясцовага клуба — Ніна Бугвін. Пасля супольна апрацавалі план дзейнасці на цэлы год. Пастаноўлена, што ўсе члены хутка аплацяць складчыны адразу за цэлы год, і што кожны член будзе падпісчыкам «Нівы». Пастаноўлена таксама арганізаваць спатканне з былымі членамі «Грамады». Пастановы гуртка БГКТ зацікавілі ўсіх жыхароў Арэшкава.

Аляксандр Дземянюк
вёска Арэшкава

# У ПАЎДНЁВАВ'ЕТНАМСКАЙ ДРЫГВЕ




Цяжкая гэта работа: цягнуць сябе з балота.

# Жыцця БГКТ

## КОНКУРСЫ

(Працяг са стар. 1)

моладзі так і старэйшым варта змерацца сваімі галасамі.

### УСПАМІНЫ АБ «ГРАМАДЗЕ»

У канцы чэрвеня беларускае таварыства запачаткуе шырокае адзначэнне 40 гадавіны «Грамады». У нас на Беласточчыне многа ёсць людзей, якія былі яе членамі і вялі вялікую палітычную работу. У сувязі з гэтым ГП БГКТ арганізуе конкурс успамінаў аб «Грамадзе», якія трэба даслаць у ГП БГКТ (Беласток, вул. Варшаўская 11) да 1-га лістапада. За найцікавейшыя матэрыялы ўспамінаў прадбачваецца першая ўзнагарода ў суме 500 зл., 5 другіх узнагарод — па 200 зл. і 10 узнагарод па 100 зл.

### ДЛЯ БІБЛІЯТЭК

Вялікае значэнне ў беларускім асяроддзі адыгрываюць бібліятэкі. Апрача шырокага чытальніцтва, многія бібліятэкі вядуць вялікую культурна - асветную работу. Каб яшчэ больш актывізаваць бібліятэкараў у беларускім асяроддзі, Галоўнае праўленне аб'явіць конкурс на найлепшую працу бібліятэкараў. Падсумаванне працы наступіць у канцы лістапада месяца. На першую ўзнагароду прадбачана 600 зл., на другую 400 і на трэцюю 200 зл.

### КОНКУРС ДЛЯ АДДЗЕЛАЎ І ГУРТКОЎ БГКТ

У бягучым годзе Галоўнае праўленне арганізуе конкурс на найлепш працуючы аддзел БГКТ і на найлепш працуючы гурток БГКТ. Так як у ГП ёсць толькі 8 аддзелаў, прадбачана толькі адна ўзнагарода ў суме 2000 зл. Найлепш працуючым гурткам, якія прымуць удзел у спаборніцтве, прызначана шэсць першых узнагарод па 500 зл. і пяць другіх узнагарод па 300 зл. Падсумаванне спаборніцтваў, як аддзелаў, так і гурткоў БГКТ, адбудзецца ў снежні.

Аб усіх успомненых конкурсах падрабязна могуць паінфармаваць аддзелы БГКТ. мх

СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА БЕЗ ТАЯМНІЦ

# Плахта ці сеялка?

У сельскай гаспадарцы нашага раёну засталіся яшчэ сярэдневяковыя метады працы. Прадзед, дзед і бацька карысталіся ў час севу звычайнай палатнянай плахтай. Сын, заглядзеўшыся на іх, не бачыць, што гэта і смешна выглядае, і вялікія страты, і горшы ўраджай. Амаль палова беластоцкіх сялян сее з плахты.

Што дае сеў радкамі? Менш трэба насення, больш раўнамерна яно размяшчаецца ў глебе, хутчэй можна засеяць (калі ўжо глеба добра нагрэта і вільготная). У выніку ручнога севу непатрэбна марнуем каля 40 — 60 кг зерня на гектар. Калі нават возьмем найніжэйшыя страты, дык акажацца, што нашы сяляне марнуюць штогод каля 12 тысяч тон насення. А страты на ўраджаі яшчэ большыя (1—2 ц з гектара).

Калі б у Дуброўскім павеце павялічыць высеў радкамі з 30% да 80% (а гэта зусім рэальна), дык можна сэканоміць 210 тон зерня.

Прычыны ручнога севу бываюць аб'ектыўныя і суб'ектыўныя. У многіх вёсках не хапае сеялак. У сярэднім у ваяводстве прыпадае па 90 га на адну сеялку. У бліжэйшы час трэба купіць мінімум 9 тысяч сеялак. Сваё моцнае слова ў гэтай галіне павінны сказаць сельскагаспадарчыя гурткі, якія яшчэ да гэтага часу не праявілі патрэбных клопатаў аб закупе машын. Напр., у Сакольскім павеце сельгасгурткі хочуць вясною купіць 300 сеялак. Збожжавая сеялка ў наш час — гэта не люксус. У кожнай вёсцы павінна іх быць па некалькі, каб у бліжэйшыя гады скончыць са старой і дрэннай традыцыяй. Асаблівая ўвага павінна быць звернута на ўсходнія раёны, дзе ёсць параўнаўча найменш сеялак. Ва ўсходняй частцы Сямяціцкага павета адна сеялка прыпадае на 100 гаспадарак.

Сеялкі трэба трымаць чыстымі, адпаведна змазанымі, а драўляныя часткі трэба пафарбаваць. Хутка сеялкі выйдуць у поле. Пачнецца сеў яравых.

З нашых назіранняў клопат маюць сяляне з устанаўленнем высяваючай прылады. Справа ў тым, каб на акрэсленай плошчы высеяць адпаведную колькасць насення.

Вось просты падлік. Мераем кола па акружнасці і множым атрыманы вынік на рабочую шырыню сеялкі. Столькі квадратных метраў мы засеем пры адным абароце кола. Затым 10.000 (столькі квадратных метраў мае гектар) дзелім на атрыманы лік. Напрыклад, атрымаем лік 1600 — значыць, столькі абаротаў зробіць кола сеялкі, каб засеяць гектар поля. Калі трэба высеяць 160 кілаграмаў насення, дык трэба так высяваць, каб пры адным абароце кола ў глебу ўпала насення ў 1600 разоў менш (160 кг: 1600), значыць атрымаем 10 дкг.

Варта дадаць, што сеў радкамі датычыць не толькі збожжа, але таксама і матыльковых, прамысловых і іншых.

Інж. М. СУХАЖЭБРСКІ

# ЖЫВЁЛАГАДОЎЛЯ

У апошнія гады наступіла значнае паляпшэнне ў развіцці жывёлагадоўлі ў Гайнаўскім павеце. На аснове сельскагаспадарчага перапісу ў 1960—1963 гадах колькасць быдла кожны год павялічвалася на 5%. У гэтым самым часе зменшвалася на 9,1% коней.

У 1964 годзе колькасць быдла павялічылася амаль што на 2000 штук, свіней — амаль на 5 тысяч.

У меру развіцця жывёлагадоўлі разбудоўваецца кармавая база. Кожны год укладаюцца мільённыя сумы грошай у меліярацыю. Але, нягледзячы на гэта, колькасць жывёлы на 100 га зямельных угоддзяў на Гайнаўшчыне меншая, чым сярэдняя ў Беластоцкім ваяводстве.

Прыродныя ўмовы павета ствараюць усе магчымасці для далейшага развіцця гадоўлі быдла.

Ёсць тут 27.500 га зялёных угоддзяў. Значная іх колькасць ужо загаспадаравана. Да 1965 года ў павеце змеліяравана каля 8,5 тысяч га і загаспадаравана амаль што 11 тысяч сенажацяў і паш. Апрача гэтага ўрэгулявана 110 км рэк і каналаў.

Беручы пад увагу інвестыцыйныя планы павета, якія прадбачваюць закончыць меліярацыю да 1968 года, загаспадараваць сенажаці і пашы да 1970 года і тое, што сяляне маюць вялікія даходы з гадоўлі кароў — усё гэта сведчыць аб тым, што жывёлагадоўля ў павеце будзе развівацца яшчэ лепш.

Апрацаваныя планы развіцця сельскай гаспадаркі прадбачваюць да 1970 года павялічыць жывёлагадоўлю на 20% у параўнанні з 1965 годам. І так, у павеце будзе налічвацца 36 тысяч галоў быдла і 59.500 свіней. Пры гэтым надоі малака ад адной каровы павінны павялічыцца на 300 літраў. За гэты час коней паменшыцца на 1500 і будзе іх у павеце 8.500.

У сувязі з такім вялікім узростам жывёлагадоўлі Гайнаўскі павет падзелены зараз на 4 гадаўляныя раёны.

Першы раён ахоплівае грамады Новаберазова, Чыжы, Стары Корнін, Ласінку і Дубіны. Жывёльная прадукцыя тут найбольшая, а кармавая база недастатковая. Таму прадбачваецца павялічыць тут кармавыя культуры на 1400 га. Гэта раён спрыяльны таксама да развіцця авечкагадоўлі.

Другі раён ахоплівае 5 грамад: Кленікі, Нарву, Трасцянку, Чаромху і Кляшчэлі. У гэтых мясцовасцях сканцэнтравана меліярацыя і загаспадараванне зялёных угоддзяў. У сувязі з тым, што тут існуюць надвышкі сена, ідуць намаганні, каб прыступіць да інтэнсіўнага павелічэння колькасці кароў.

Трэці раён распалажаны на тэрыторыі грамад Палічна, Арэшкава і Дубіч Царкоўных. Характарызуецца ён неўраджайнымі землямі. Адчуваецца тут недахоп зялёных кармавых, прапашных культур і бульбы. Таму тут будуць змеліяраваны літаральна ўсе зялёныя ўгоддзі і ўведзены сакавітыя кармавыя культуры, пасевы паіржышчавых, вікі і сэрадэлі.

У чацвёрты раён уключаны грамады Семяноўка, Старое Ляўкова і Нараўка. Па прыродных і эканамічных умовах ён падобны да трэцяга раёну. Тут перш за ўсё плануецца звярнуць увагу на паляпшэнне якасці жывёлы, папулярызацыю паіржышчавых і кармавых культур

Ю. Казак
Гайнаўка



# НАСТАЎНІЦА

...Валя Высоцкая ўжо 15 год працуе па сваёй прафесіі. Яна вучыць дзяцей у Пясчаніках, Беластоцкага павета. Школа тут маленькая, толькі чатырохкласная. Валя Высоцкая настаўнічае ў ёй у адзіночку ўжо сёмы год. Сяляне яе любяць. Між іншым па ініцыятыве настаўніцы жыхары Пясчанікаў пабудавалі ў сябе ў вёсцы прасторную святліцу. Пясчаніцкая школа мае ўласны тэлевізар. Вечарамі прыходзяць туды сяляне паглядзець праграму.

На здымку: Настаўніца Валя Высоцкая.

Фота В. Рудчык

# ГАСПАДАРЫ ГРАМАДЫ

У нядзелю 21 лютага г.г. апошні раз засядала цяперашняя грамадская рада нарадовая ў Храбалах. Было гэта 40-вое яе пасяджэнне. Сяргей Федарук з Гацькоў, Міхась Гадзіна з Райска, Аляксандр Хількевіч з Храбалоў, Міхась Кужаль з Праневіч і іх сябры, якіх выбралі чатыры гады таму назад, сабраліся пагаварыць аб працы храбалоўскай грамадскай рады, аб сваёй працы ў мінулыя гады. Словам самаацэнка.

Многія сярод храбалоўскіх радных дрэнна разумелі свае заданні. Часта лічылі яны за кару прысутнасць на сесіі рады. Скажам, Ян Прахарук аж 25 разоў не з'явіўся на пасяджэнне сваёй рады, Хведар Амельянюк — 24 разы. Стараліся датрымоўваць ім кроку ў бяздзейнасці Ян Врублеўскі, Ян Міранюк, Пятро Туроўскі і некаторыя другія. Мяркуем, што падобныя «мёртвыя душы» не знойдуцца сярод радных пасля сёлеташніх выбараў.

Грамадская рада — гаспадар на сваёй тэрыторыі, а тэрыторыя рады ў Храбалах выключна сялянская. Таму, зразумела, найбольш часу храбалоўская рада прысвяціла справам сельскай гаспадаркі. У грамадзе дзейнічае пяць сельгасгурткоў. Людзей нагаварваць ужо не трэба, каб карысталіся машынамі. Цяпер сяляне дзесяць раз больш высяваюць штучных угнаенняў, чымсьці рабілі гэта 5 год таму назад, падвоілася кантрактацыя ільну і цукровых буракоў.

Бюджэт храбалоўскай ГРН за мінулы год перавысіў 450 тысяч злотых. Узрастаў ён з кожным годам. Грошы гэтыя пайшлі перш за ўсё на адміністрацыйныя расходы. Дзякуючы аднак грамадскай працы ў Дзянісках, Кназазах, Грыневічах Малых, Храбалах і ў Райску забрукавана забалочаныя вуліцы, пракладзена 20 бетонных перамычак на дарогах, а 12 кіламетраў бездарожыцы пакрыта жвірам або брукам.

Калі на прадвесні 1961 года праходзілі прадвыбарчыя сустрэчы, людзі гаварылі кандыдатам на радных аб сваіх найпільнейшых патрэбах. Жыхары Малых і Вялікіх Грыневічаў разам з жэпнеўцамі дабіваліся электрычнасці і радыёкропак. Цяпер ужо зіхаціць у гэтых вёсках электрычнае святло і іграюць рэпрадуктары.

У Дзянісках патрабавалі школы. Тут штогод людзі нямала грошай зарабляюць на агурках. Было з чаго адлажыць на школу, і яны скдаліся грашыма, каб толькі купіць будынак на школу. Грамада дапамагла — і новая школа стаіць у Дзянісках.

Жыхары Храбалоў і навакольных вёсак жадалі, каб у іх пункце аховы здароўя працаваў таксама зубны лекар. Цяпер, каб вырываць і лячыць зубы, ужо не трэба ехаць аж у Бельск. Зубны лекар працуе ў Храбалах.

Крыху пазней, ужо перад з'ездам ПАРП, у многіх вёсках храбалоўскай грамады людзі прасілі, каб у Храбалах ПЗГС наладзіў пункт продажу цэменту, будаўлянай вапны, а восенню, каб прымалі тут бульбу, цукровыя буракі і свіней. Для гэтага можна было б выкарыстаць будынкі, якія засталіся пасля былой спулдзельні. Сялянская просьба здаецца нам разумнай і абгрунтаванай. Толькі дзіўна, чаму яна яшчэ да гэтуль не ўсхвалявала зацвярдзелыя сэрцы кіраўнікоў Бельскага ПЗГС-у.

Вось якімі сцяжынкамі хадзіла грамадская ўлада ў Храбалах, ды не толькі ў Храбалах. Чатыры гады ў гісторыі, бы кропля вады ў моры. Аднак людзі, якіх мы выбралі чатыры гады таму назад, сваёй дзейнасцю пакідаюць трывалы след на вобліку паасобных вёсак. Найбольш карыснае будзе прыкладам для тых, каго выбярэм у гэтым годзе. Яны зноў нечым добрым узбагацяць нашу вёску.

В. Рудчык

## Як пасцелешся, так выспішся

Гэта прымаўка надта добра для характарыстыкі атмасферы ў школе ў Баброўніках, Беластоцкага павета. Тут дзелавы настрой і гэта відаць не толькі ў тым, што школьны будынак прыгожа адрамантаваны і чысты.

Кіраўнік школы Мікалай Бакаушын слушна ганарыцца цікавай вучнёўскай майстэрняй, якая адыгрывае вялікую ролю ў пашырэнні палітэхнічнага выхоўвання дзяцей. У гэтай майстэрні робіцца літаральна ўсё, што патрэбна школе: зграбныя малаткі розных размераў, граблі і граблікі, свідры і ўсякія шылы, пэндзлікі і навучальныя дапаможнікі. Баброўніцкая школа не аглядаецца на вышэйшыя ўлады. Поўная самастойнасць і вынаходлівасць школы мае добры, станоўчы ўплыў на фармаванне індывідуальнасці вучня і належнай яго падрыхтоўкі да жыцця.

У мінулым годзе зроблена ў вучнёўскай майстэрні 50 бляшаных паілак і 60 карытцаў для фермы прадукцыйнай спулдзельні ў суседніх Лужанах. Узамен за эта прадукцыйная спулдзельня дала сваю машыну для арганізацыі экскурсіі ў Варшаву. Такім чынам пачалося цеснае супрацоўніцтва паміж баброўніцкай «вучнёўскай рэспублікай» і Лужанскай спулдзельняй. Вучні палолі буракі і фасолю, дапамагалі ў іншых работах.

Абсаджана дрэўцамі каля двухсот метраў вясковай вуліцы і дарогі. Шмат папрацавалі пры пабудове фундамента пад злеўню малака. У вучняў нараджаецца пашана да працы, да грамадскай уласнасці — нараджаецца дбайнасць да агульнага дабра: клапоцяцца аб роднай школе, аб прыгожым выглядзе роднай вёскі. Салідарна працуюць на яе карысць. (ся)

 

# ТАЯМНІЦЫ ІЛЬНУ

Не толькі ў Польшчы, але і ва ўсім свеце валакністыя расліны праходзілі зменлівы лёс. Быў час, калі здавалася, што валакністыя расліны, як лён і каноплі, заменіць баваўна альбо штучнае валакно.

Аднак лён і каноплі захавалі сваё гаспадарчае значэнне. Справа ў тым, што іх валакно вельмі трывалае, яно знаходзіць шырокае прымяненне. Асабліва вялікае значэнне мае лён як расліна валакністая і алеістая. Прытым, яна дае каштоўную кастрыцу, якая надзвычай прыдатна для вырабу лёгкіх будаўнічых матэрыялаў (пліт).

Зрэшты, апрача валакна, пліт і алею толькі адзін лён з'яўляецца прыдатнай сыравінаю для вырабу лепшых фарбаў, лаку і ліналеуму; з ільну атрымоўваюцца добрыя кармы для жывёлы, як, напрыклад, макуха з ільнянога насення альбо мякіна.

З ільну вырабляюць тэхнічныя тканіны: усялякія брызенты, ізаляцыйныя ленты, а таксама санітарныя бінты. Яны з'яўляюцца ўстойлівымі на вільгаць, пераменлівыя тэмпературы, пашкоджанні. З ільнянога валакна вырабляюць вяроўкі, канаты, рыбацкія сеткі, розныя шнуры і шпагаты, парусы, мэблевыя тканіны і т.п.

Перад вайною вырошчванне ільну не мела якога-небудзь гаспадарчага значэння з увагі на слаба развітую прамысловасць, якая арыентавалася толькі на баваўняныя вырабы. Ільнянымі вырабамі займаліся некаторыя рамеснікі, а найчасцей гаспадары.

У наш час, калі прамысловасць моцна развілася, паявілася вялікае запатрабаванне на валакно. Нягледзячы на шырокую папулярызацыю кантрактацыі ільну, усё яшчэ яго ў нас недастаткова. Многа ільну вымушаны мы купляць за граніцаю і плаціць за яго дэвізамі.

Прывоз з заграніцы ільнянога валакна мог бы быць значна меншым, калі б павялічылася ў нас плошча пасеваў ільну.

У паўднёва - ўсходніх паветах Беласточчыны: Бельскім, Гайнаўскім, Сямяціцкім — за апошнія гады значна павялічылася плошча пасеваў ільну. Напрыклад, у Бельскім павеце ў 1956 годзе засеяна ільну на плошчы 820 гектараў, а ўжо ў 1964 годзе — на плошчы 2.393 га. У гэтым павеце ёсць 3.500 плантатараў ільну. Павелічэнне пасеваў ільну з'яўляецца пацяшальнай з'яваю, але даўжыня і якасць ільняной саломы ўсё яшчэ незадавальняючая.

Ураджайнасць ільну ў некаторых выпадках дасягае да 80 цэнтнераў з аднаго гектара. Такімі ўраджаямі можа пахваліцца Іван Сцепанюк з Трасцянкі і Мікалай Хадак з Ласінкі ў Гайнаўскім павеце, а таксама Міхась Ігнатовіч з Парцава ў Бельскім павеце. Аднак большасць плантатараў ільну не дабіваецца высокіх ураджаяў, задавальняецца малымі — часта нават па 20 цэнтнераў з аднаго гектара.

Прычын такіх няўдач плантатараў трэба шукаць перад усім у іх агратэхнічных памылках. Лён патрабуе асаблівага догляду, і таму трэба разважыць некаторыя справы, звязаныя з вырошчваннем яго. У наступных нумарах «Нівы» апішу дакладна спецыяльныя патрабаванні ільну і догляду яго, аб чым павінен ведаць кожны плантатар, калі хоча дабіцца высокіх ураджаяў і даходаў.

**Станіслаў ФАЛЬТЫН** — старшы інспектар Польскага аб'яднання плантатараў валакністых раслін у Беластоку.

# Пахвала рыбалаўскай моладзі

(Працяг са стар. 1)

Калі ў 1962 годзе рыбалаўская моладзь атрымала пасведчанні заканчэння навукі ў СПР-ы, не развіталася яна ані са школьнымі сценамі, ані з навукаю, не распаўся таксама і калектыў. У Рыбалах няма зараз ні вясковай святліцы, ні клуба, і школа з'яўляецца тут галоўным не толькі асветным цэнтрам. Ахвотная да культурнай працы моладзь знайшла належную падтрымку ў мясцовых настаўнікаў, а перад усім у асобе настаўніцы Аляксандры Панасюк, якая ўвесь час апякуецца калектывам.

Рыбалаўскі драматычны калектыў дае штогод пастаноўкі п'ес на рыбалаўскай сцэне, а таксама ў суседніх вёсках — Канюках, Плёсках, Паўлах. Публіка прызвычаілася ўжо да гэтага і калі надыдзе зіма, з нецярплівасцю чакае новай пастаноўкі маладых мастакоў.

Штогод рыбалаўскі драматычны гурток бярэ ўдзел у аглядах мастацкіх гурткоў, арганізаваных БГКТ, здабываючы ў публікі і ў журы належнае прызнанне. Многія з удзельнікаў калектыву за некалькі год сваёй працы на аматарскай сцэне здабылі параўнальна высокі мастацкі ўзровень, як, напрыклад, Янка Апалінскі — у камічных ролях і Віктар Вішнеўскі — у сур'ёзных.

Цікава, што мастацкая дзейнасць не перашкаджае рыбалаўскай моладзі вучыцца. Аж 7 удзельнікаў калектыву паглыбляе свае веды завочна ў сельскагаспадарчым тэхнікуме ў Дайлідах. Калі ўлічым, што гэтыя маладыя людзі цяжка працуюць на гаспадарцы, а неаднойчы дадаткова зарабляюць пры розных працах, што знаходзяць яны час на грамадскую дзейнасць, на сяброўскае маладзёжнае жыццё, дык загаловак гэтага артыкула акажацца як найбольш апраўданым.

**РЫГОР ПАЎЛЮК**

# ЗАСЛУЖЫЛІ НА ПАДЗЯКУ

Адной з большых вёсак у нашым раёне з'яўляецца Семяноўка. Абшар семяноўскіх палёў і будынкаў займае першае месца ў тутэйшай грамадзе. У гэтай вёсцы ёсць многа печнікоў, сталяроў і кавалёў. Ёсць сельскагаспадарчы гурток, багаты рознымі гаспадарчымі прыладамі і машынамі. Ёсць дзве крамы, пошта, мураваная школа, грамадская рада нарадовая, якая дагэтуль змяшчаецца ў прыватным памяшканні. Незадоўга будзе яна ў новым і прасторным будынку пабудаваным грамадскім чынам усёй грамады.

А калі ўспомніць аб культурным жыцці гэтай вёскі, дык яно тут займае пачэснае месца. Амаль у кожнай хаце грае радыёпрыёмнік, а ў чатырох будынках вёскі моргае акенца тэлевізійных апаратаў.

У памяшканнях з тэлевізарамі заўсёды поўна старэйшых і моладзі. Яны, замест марнаваць вольны час на ігру ў карты, ідуць на тэлевізійныя перадачы. У нядзелі і свята ўдзень моладзь чытае кніжкі і часопісы, вечарам хлопцы прывозяць музыкантаў і разам з дзяўчатамі гуляюць у сваёй святліцы. Святліца, штоправда, драўляная, але прасторная і выгодная. На сцэне святліцы часта выступаюць з родным словам гурткі маладзёжных арганізацый з навакольных вёсак. Возьмем, напрыклад, дзень 14 лютага гэтага года. Раніцай на слупах электрычнага святла віднелі аб'явы з напісамі:

«Сёння ў 17 гадзін у святліцы выступіць з родным словам маладзёжны гурток ЗМВ з Альхоўкі. Уваход платны: школьнікі па 2 зл., старэйшыя па 5 зл.». Раніца была спакойная і сонечная. Каля поўдня пачаў падаць снег, а пасля разгуляўся вецер. Ён выў і нёс снег ва ўсе шпары, задуваў дарогі і сцежкі.

Але альхоўская моладзь не пабаялася завірухі, датрымала слова і ўжо ў 15 гадзін прыехала ў Семяноўку. Падрыхтавалі ўсё, як трэба было, і пачалі продаж білетаў. Спачатку выступіла Тамара Раманчук, кіраўнік альхоўскай моладзі. Яна пазнаёміла гледачоў з праграмай выступлення.

І зараз жа са сцэны паплылі галасы беларускіх і рускіх песень. Моладзь выконвала «Нёман», «Валжанка», «Сярожа», «Белыя ночы» і многа іншых. Пасля кожнай песні з залы чуліся дружныя апладысменты. Пасля песень самадзейнікі выступілі з п'есай «Суд». Песняй «Бывайце здаровы, жывіце багата» альхоўская моладзь закончыла сваю праграму роднага слова і жадала нам многа, многа шчасця.

Я хачу ад імя ўсіх гледачоў пажадаць моладзі з Альхоўкі ўсяго найлепшага і шчыра падзякаваць і кіраўніку і моладзі за іх прыезд у Семяноўку з мастацкім выступленнем.

**Янка Бура**

# Аўтаматы і бюракраты

Ад ранняй зары да позняй ночы на аўтобуснай станцыі ў Беластоку не спыняецца таўкатня. Кожны хоча неяк дапхацца да аконца, дзе прадаюць білецікі, а чарга доўгім вужам заўсёды ўецца па затоптанай пачакальні.

Каля года таму назад на аўтобуснай станцыі паявіліся два першыя аўтаматы для продажу білетаў на прыгарадныя лініі. Ад 15 лютага г.г. распачаў службу трэці аўтамат. Аўтаматы ствараюць для пасажыраў вялікую выгоду. Не трэба таўчыся ў чарзе, не трэба нервавацца і марнаваць час.

Аднак, відавочна, кіраўніцтву Ваяводскага прадпрыемства ПКС не спадабалася выгода, якую для пасажыраў ставарае продаж білетаў у аўтаматах. **Над аўтаматамі паявілася суровае ПАПЯРЭДЖАННЕ:**



**Перад касавымі аконцамі на аўтобуснай станцыі ў Беластоку пры вул. Юравецкай пастаянная таўкатня.**

«Увага, Падарожныя!

Білеты з аўтаматаў не трацяць важнасці цэлы дзень на аўтобусы прыгарадных ліній.

Пасажыры з гэтымі білетамі будуць упускацца ў аўтобусы толькі тады калі будуць свабодныя месцы, так як гэтыя білеты не акрэсліваюць гадзіны ад'езду».

Значыць, білет з аўтамата — гэта нібы білет другой катэгорыі. Паспрабуй купі яго, дык невядома, заедзеш дахаты, ці не. Усё залежыць ад капрызу кандуктара, які, чуючы за сабой права, можа цябе з аўтаматным білетам упусціць у аўтобус, а можа захлопнуць дзверы перад носам, і цалуй сабе наздароўе клямку. **Нічога тады дзіўнага, што больш як палавіна пасажыраў на прыгарадныя лініі ПКС далёка абмінае цудоўныя аўтаматы і лепш згаджаецца гадзіну-паўтары патаўчыся ў чарзе да касы.** Тут прадаюць білеты, абазначаныя згодна з усімі правіламі: з датай, гадзінай ад'езду і нават (як на смех!) з вызначаным месцам. З гэтымі білетамі кандуктар не мае права адправіць пасажыраў ад аўтобуса.

Нам аднак здаецца, што ўсё гэта моцна пахне бюракратыяй. (вр)

фота аўтара




**Перад аўтаматамі пуста.**

# Настаўніца Люба Сегень

У нашай вёсачцы Доўгі Брод восенню 1963 года арганізавалася 4-класная школа, у якой працуе настаўніца Люба Сегень. Яна арганізавала аматарскі калектыў са школьнікаў, а пасля з моладзі. Школьнікі выступалі з мастацкай часткай на дзень Войска Польскага, гадавіну Кастрычніцкай рэвалюцыі, дзень жанчын, 1-та мая і падчас навагодняй ёлкі. Па яе ініцыятыве і пад яе кіраўніцтвам моладзь падрыхтавала п'есу Я. Купалы «Паўлінка». Першы раз выступіла яна ў лютым мінулага года і выклікала вялікае зацікаўленне ў вёсцы. Справа ў тым, што з дзедапрадзеда ніколі моладзь Доўгага Броду не выступала на сцэне. Пасля аматарскі калектыў выязджаў у Кузава, за 20 кіламетраў, і там таксама выступаў з вялікім поспехам.

У гэтым зімовым сезоне моладзь падрыхтавала «Прымакі» і некалькі беларускіх танцаў, у тым ліку і «Лявоніху». У мастацкім калектыве бярэ ўдзел таксама моладзь Забалоцця, Вілюкоў, Круглага і Нікіфароўшчыны. Моладзь і ўсе жыхары нашых маленькіх вёсачак палюбілі Любу Сегень за яе ахвярнасць, за тое, што разбудзіла тут, у пушчанскіх вёсачках, культурнае жыццё.

**Дзмітры Мікуліч**
вёска Доўгі Брод

„НІВА"
- Твой найлепшы прыяцель.
Чытайце „НІВУ"



 



## ФАБРЫКА ВАДЫ

Арабская рэспубліка Кувейт — ля берагоў Персідскага заліва — да нядаўна не мела прэснай вады, купляла яе за граніцаю і прывозіла спецыяльнымі караблямі-танкерамі. Аднак цяпер пабудавана ўжо ў Кувейце шэраг фабрык, якія дэстылююць марскую ваду, пампаваную з Персідскага заліва. Адну з такіх фабрык бачым на здымку.

Без прэснай вады няма жыцця.

(г-ся)

## БЛАГАСЛАЎЛЕННЕ ПРАЗ АКНО

Удыхаем чыстае паветра, а выдыхаем чад. Таму так важна — часта ветрыць пакой. Калі б мы аказаліся ў шчыльна зачыненым пакоі, без ніякіх шпарак, задушыліся б за некалькі мінут. Але на шчасце нашы хаты маюць многа часта нябачных дзірачак, праз якія ўвесь час адбываецца змена паветра. Але для поўнага здароўя гэтага мала. Трэба наўсцяж адчыняць вокны. Нават зімою. Інакш будзем адчуваць слабасць, галаўны боль, боль над вачыма, колікі ў грудзях. Свежае паветра адсвяжае кроў.

Чалавек за гадзіну ўдыхае 500 літраў паветра, 8 літраў на мінуту, а выдыхае 22 літры чаду. Калі ў паветры, якім мы дыхаем, ёсць 5% чаду, арганізм затруваецца, калі 14%, дык арганізм не вытрымлівае — наступае смерць.

Цяпер уявіце сабе такую карціну. Пакой. Сядзяць дзве дарослыя асобы, двое дзяцей скачуць па падлозе. Тата курыць. Прыходзіць сусед, адзін, другі — таксама закурылі. У пакоі робіцца цёпла, душна, цёмна. Ці здарова? Увага на дзяцей, якія дыхаюць такім паветрам!

Ужо не гавару пра пыл, у якім заўсёды поўна мікробаў, для якіх свежае, чыстае паветра — гэта смерць.

Трэба ведаць, што чым больш людзей жыве ў даным пакоі, тым часцей трэба адчыняць акно або дзверы.

Найлепш ветрыць скразнякамі. У такім выпадку хопіць адной мінуты часу зімой, каб добра праветрыць вялікі пакой. Скразняк! Ён, так. Можа зашкодзіць чалавеку сагрэтаму, незагартаванаму. Але значна больш шкоднае нясвежае паветра. Акно не можа быць завешана цёмнымі цяжкімі заслонамі. Не стаўце на ім вазонаў, яны засланяюць святло і перашкаджаюць адчыняць акно.

(а-вл)



## МЫЛА НА ДРЭВЕ

На Фларыдзе (ЗША) расце «мыльнае дрэва». Яго спелыя плады расцертыя робяць цудоўную пену. Мясцовыя жыхары ўжываюць да сціркі толькі гэтакае мыла.

## Хто найбольш чытае?

Ніжэй прыведзеныя лічбы паказваюць лікі экземпляраў газет на 1.000 жыхароў у краінах з найбольш развітым чытальніцтвам:

Швецыя — 526
Англія — 506
Нарвегія — 465
Фінляндыя — 447
Герм. Дэм. Рэспуб. — 432
Японія — 410
Швейцарыя — 384
Савецкі Саюз — 358
Злучаныя Штаты Амерыкі і Зах. Германія — 326
Бельгія — Галандыя — 285
Польшча — 185.

(а-ся)

## МОДА • МОДА • МОДА



### СУМКІ

Сетчатыя сумкі модныя і прыгожыя. Робяцца са штучнага валакна і таму моцныя. Бываюць розных колераў і фасонаў. У спалучэнні з простым спартыўным світарам выглядаюць вельмі прыемна. Цяпер модныя розныя торбы, кошыкі. А ў старажытным Егіпце 4 тысячы год таму назад егіпцянкі насілі на галаве каробкі, дзе трымалі свае рэчы, без якіх ніякая жанчына ніколі не абыдзецца.

(арг. вл)



## Што значыць бомба А

Падлічваюць, што ў нашы дні атамныя запасы свету раўназначны 16 тысячам 20-мегатонных бомбаў. А выбух адной 20-мегатоннай бомбы можа нанесці такія разбурэнні, як налёт 1.000 бамбардзіроўшчыкаў у часы другой сусветнай вайны. Прытым, каб дараўнаць сваёй сілаю 20-мегатоннай бомбе, гэты налёт павінен быў бы цягнуцца безупынку дзень у дзень 14 год!! На здымку бачым еўрапейскі горад, разбураны ў час другой сусветнай вайны. (Фатаграфія з самалёта).

(ся)

## Навіны экрану

### «ВЫСТРАЛ У ІМГЛЕ»

У невялікім гарадку Зарэчанск жыве і працуе выдатны савецкі вучоны Еўдакімаў — спецыяліст ад будовы ракет. У амерыканскім пасольстве працуе чалавек, прозвішча якога Бінкль. Ён уяўляе сабою дыпламата, а ў сапраўднасці кіруе шпіёнскай сеткай. За ўсялякую цану яны стараюцца выкрасці таямніцу савецкага вучонага. Але добрая і спрытная праца савецкага контрразведчыка Кісялёва выяўляе шпіёнскую сетку, у выніку чаго Бінкль і яго памочнікі трапляюць за краткі.

Савецкі мастацкі фільм «Выстрал у імгле» пастаўлены ў 1963 годзе ў кінастудыі «Масфільм».

## Папяросы з капусты

Курыць не варта. Але калі нехта такі ўпарты і абавязкова хоча, раім наступнае: дробна парэзаць і змяшаць лісце капусты, бурака, малачаю. Курыльшчык мае свае папяросы, а яны не шкодзяць яго арганізму, бо не маюць нікатыну.

Доктар Роберт Кейз — аўтар вынаходкі — кажа, што большасць курыльшчыкаў не ўмее вытлумачыць, чаму курыць. Задавальненне прыносіць ім трыманне папяросы ў руках ці на губах. Таму пераход ад нікатыну да малачаю яны нават не заўважаць.




У сем гадзін раніцы Дзяменцяў рашуча ўстаў з ложка. Баючыся разбудзіць гаспадыню, ён асцярожна прайшоў у ванны пакой, пагаліўся і ўмыўся халоднай вадой. Але калі ён выйшаў з ваннага пакоя, гаспадыня ўжо чакала яго ў пярэднім. Адбылася яшчэ адна цяжкая гутарка. Дзяменцяў упарта запэўніваў яе, што карціны знойдуцца. Урэшце Дзяменцяў выбраўся з дому.

Як і ўчора, усе вуліцы паблізу порта забітыя войскам, але быў ужо наведзены парадак. Тэхніку расставілі па дварах. На варотах, на сценах дамоў нарысаваны ўмоўныя нумары ці сімвалічныя знакі часцей.

Ля ўваходу ў порт Дзяменцяў убачыў нешта новае. У варотах стаялі чатыры эсэсаўцы з аўтаматамі на грудзях. На жаль, Дзяменцяў убачыў іх, ужо перасякаючы плошчу, калі павярнуць у бок было позна — гэта магло выклікаць падазрэнне. Дзяменцяў толькі крыху прыцішыў крокі, каб паспець абдумаць гэту новую сітуацыю. Відавочна, камандванне вырашыла ўзмоцніць ахову порта, і ўсё. Смела наперад!

57

У яго нават мільганула гордая думка: «Гэта з-за мяне».

Дзяменцяў хацеў прайсці паміж эсэсаўцамі, быццам не звяртаючы на іх увагі. Адзін з іх высунуў аўтамат, і праход быў закрыты.

— У чым справа? — спытаў Дзяменцяў.

— Пропуск.

Дзяменцяў выняў з кішэні сваю паперку, але эсэсавец нават не ўзяў яе.

— Патрэбны новы пропуск.

Другі эсэсавец дадаў:

— Ад сёння ўведзены новыя пропускі. Прайдзіце вось у той дом.

Гэта быў знаёмы Дзяменцяву дом каменданта порта. Ён заходзіў туды, быццам шукаючы нейкіх грузаў для свайго палка. Тады ў калідоры было поўна людзей, а цяпер — ні душы. І адразу Дзяменцяў зразумеў, што тут абсталявалася гестапа.

— Дзе тут выдаюць новыя пропускі ў порт? — звярнуўся Дзяменцяў да праходзячага гестапаўца.

— Пакой нумар дзевяць, — адказаў гестапавец.

Калі Дзяменцяў быў ужо у трох кроках ад гэтага пакоя, дзверы адчыніліся і два гестапаўцы выцягнулі ў калідор пажылога чалавека ў марской шапцы і мундзіры.

— Выслухайце мяне! — крычаў чалавек. — Я супрацоўнік партовай метэастанцыі... Мой абавязак...

58

Які быў абавязак у гэтага чалавека, Дзяменцяў ужо не разабраў — чалавека ўвапхнулі ў другі пакой...

Заходзіць у дзевяты пакой ці, пакуль не позна, наогул уцячы адсюль? Але ўцячы — гэта значыць, што палкоўнік Доўгалеў больш не атрымае ад Дзяменцява паведамленняў, транспарты бесперашкодна павязуць гітлераўскія войскі ў Германію, і яны выступяць супраць Савецкай Арміі. Уцячы — значыць не выканаць баявога загаду.

На гэтыя роздумы Дзяменцяву спатрэбілася не больш секунды. Пагарджаючы сабою за тое, што ў думках магло хоць бы мільгануць подлае «ці», Дзяменцяў рашуча адчыніў дзверы і ўвайшоў у дзевяты пакой. Пакой быў вялікі. Па сярэдзіне яго перагароджваў доўгі стол, за якім сядзелі побач два гестапаўцы. Насупраць дзвярэй, у якія ўвайшоў Дзяменцяў, па той бок стала, былі другія дзверы. Напэўна, раней у гэтым пакоі адбываўся тамажны агляд марскіх пасажыраў.

Дзяменцяў зачыніў за сабою дзверы і, як усе баявыя афіцэры гітлераўскай арміі, не любячыя выцягвацца перад гестапаўцамі любых чынаў, памалу падыйшоў да стала і без ніякага звароту спытаў:

— Тут выдаюць новыя пропускі ў порт?

— Хто вы такі? — быстра спытаў гестапавец.

— Капітан Рукерт. Я адказваю за санітарны стан караблёў.

Гестапаўцы пераглянуліся.

— Вашы дакументы, капітан?

59

